# „МАЛАНКА“

## ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ.

# 1927.



Рэдакцыя „МАЛАНКА“ Вільня, Гэтманская вул. № 4.

Друк. Крэйнэс і Кавальскі, Вільня, Вялікая 39.

Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem
ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.





| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4 «МАЛАНКА» | № 7 5-га КРАСАВІКА 1927 г. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на 1 год 8 злот., „ паўгода 4 „ „ тры мес. 2 „ „ адзін м. 1 „ ; За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт. |
|---|---|---|


# На заваяваньне Заходняй Беларусі.




**Трох „рыцараў“ з полёнафільскага абозу**: Вось цяпер, як «Грамада» разгромлена, пара нам вырушыць у паход на заваяваньне «Крэсаў»; ня дарам-жа нам грошы плацяць. — Трэба-ж паказаць сваю „сілушку“!...




# Перша-апрэлскія плёткі.

Ці ня злы дух тут паскудзе;
(Хай Бог крые што такое),
І дакуль-то гэтак будзе? —
Вось пытаньне дзе сьвятое.
Што-ж, — шукаюць сабе гуза...
Жарт! дзе два, тры беларусы
Дык вядома, браткі, і вам —
Дзесяць партыяў ужо там.
А ўжо-ж вось, як стануць радзіць,
(Каб, крый Божа, хоць ня „зглазіць“):
— Думкі спрэчкі, прапановы,
Аргумэнты, і ўсё мовы...
А тых гутарак, а плётак!
Вось каб ўсіх вясковых цётак
Пазьбіраць-хоць ад зімы,
Дык ня скончыш ты іх „працу“—да вясны
Усюды плётак тых о, Божа!
Вось яны:

— Кажуць, Сойм, што быў пакорны, як цялё,
Ужо дастаў сабе па нечым круцялём...
Ды адпраўлены „начальствам“ ён ізноў
На зялёну пашу сьвежую дамоў.

Кажуць, Польская П. С. й манархісты
Разам граюць яны ў дудку галасіста.
З усіх сіл, на справу цiснучы плячом,
Каб на ўдзячнасьць беларускім дзеячом
За іх клопат, працу шчырую праз меру, —
Адпачынак даць: — казённую кватэру,
Ваду, ежу, (можа зьдзівіць вас каго?)
І... дармовую абслугу да таго...

Кажуць, ўлетку беларусам дадуць ўсё:
Школы й розныя правы там на жыцьцё;
Толькі, ведама, трэ' крыху пачакаць,
Каб дазвол на гэта з неба атрымаць...
Кажуць, ў вёсках з вясной шырыцца бяда:
Як падаткі, голад і ўсякая нуда;
Каб сялян ад тэй загубы ўратаваць, —
Будуць дарма ім газэты высылаць:
І *„Бел. Слова“* і *„Бел. Долю“* й шмат другіх;
(Бач, як дбаюць аб сялянах дарагіх!).

Кажуць, шчэ, што бел.-рэдактарам ўначы,
Сны ў рот лезуць, хоць ты гвалту закрычы,
Маршыруюць сярод хаты,
Бы злы дук той — конфіскаты,
А за імі пратаколы,
А там далей, ўзьняўшы полы,
(Што-б вы думалі?) а... краты!.
Бел.-сэнатараў: Багдана, (ну й сьплятуць!)
Назарэўскага й Аўсяніка — пасла,
Дык начыста, кажуць, трасца затрасла:
Як успомняць, што „мандацік“ адбяруць,
Дык нанова бедных дрыжыкі бяруць...

Кажуць, зграя — *Пяст. Эндэча* і *Хадэк*
З болем ў сэрцы чуюць Сойму малы век...
З тэй прычыны пяруном на „крэсы“ пруць:
Цешыць зноў сялян,—пускаці ў вочы чмуць.
Іх сяляне ўжо рыхтуюцца спаткаць, —
Ткнуўшы фігу, лобам дзьверы паказаць,
Бо мінуў панам той момант залаты;
І вылазіць селянін наш з цемнаты.
І адно, — слухаць толькі ён гатоў
Беларускіх сваіх дзеячаў, паслоў
Вось!..

А цяпер табе „Маланачка“ мая!
За навіны шчыра дзякую тут я,
Бо ці-ж здолее так лоўка хто, як ты
Праўду выцягнуць на вонкі з цемнаты,
спаліць чмут,
Вочы высмаліць брыдзе,
Сваім гумарам працоўны цешыць люд?!
Гэй сяляне! Гэй працоўныя! Сьпяшы! —
Невялічкія каштуе вось грашы, —
Трэба родную „Маланку“ падтрымаць
І загінуць сярод шляху ёй ня даць!

**Міхась Васілёк.**

# Тавараабмен у Заходняй Беларусі.




Ад нас.




Да нас.

## „Крытыку“ Сьветазару

**прысьвячаю!**

„Калі ня поп, ня ўбірайся ў рызы“
(*Народная прыказка*).

На строчках „Сялянскае Нівы“
Імчыцца у даль чыйсь Пегас,
У шапачцы белай, гульлівы
Бяжыць чалавек на Парнас.

*

На ногах парваныя боты,
Пяро за вушыма стырчыць,
У твары так многа ахвоты
Свой талент крытычны разьвіць.

І вось ударае па ліры
Рашуча і сьмела пяром,
Як стырнік ня спрытным ударам
Па хвалях бурлівых калом.

*

Бурчаць, разьлягаюцца гукі;
Ў іх чуецца гнеў і дакор,
Што нейкі «педанцік» ад скукі
Паэтам паказвае тор.

Там чуецца сьлёзная жальба
Аб беднасьці сэрца, душы,
Што «нехта» да гэтага часу
Жыве у «культурнай глушы».

Хто йдзе не за гукамі ліры,
А там—дзе гарэлка і злот.
Нясе свае лепшыя сілы
Туды, дзе «кто больше даёт».

*

Сьмяюцца, рагочуць акорды
Над бедным «дзяцёнкам» Парнаса,
Хто думкай сваею так гордай
У ганьбу кіруе Пегаса.

Тут голас пачуўся з нябёсаў:
„Пакінь, о ўцячы ты з Парнасу,
Людзем ня псуй нэрваў і часу,
Бо ўрэшце дастанеш атосай“.

І «крытык» пакорнай авечкай
З Парнаса уніз пакаціўся
І пасквіляў нудных ў газэты
Пісаць ужо больш не садзіўся.

„**Цёмна-Зар**“.

## СКАЗАЎ ПРАЎДУ.

Удавец ажаніўся з жанчынай старшага веку. Па шлюбе прыяжджае „маладая“ пара да хаты ўдаўца. Жаніх прадстаўляе новую жонку свайму колькігадоваму сыну:

— Вось гэта твая новая маці.

Хлопец добра агледзіў мачыху з усіх старон, дый кажа:

— Але-ж, цябе татка, ашукалі: яна-ж старая.

*К.*

## Конфіската.

**Дня 2-га красавіка с. г. па загаду Камісара Ураду сконфіскаваны „prima-aprelski“ нумар „Маланкі“ за № 6 за зьмешчаны там невялічкі жарт „Зайздросны“.**

**У сувязі з гэтай конфіскатай абвінавачваюць нашага рэдактара з арт. 154 Карн. Кодэксу.**

Усім паважаным нашым падпісчыкам рассылаем пры гэтым нумары № 2 „Маланкі“ з дня 25 лютага с. г., які таксама быў **конфіскаваны** па загаду Камісара Ураду за жарт „Усіх Сьвятых“ Акружны Суд у Вільні конфіскаты не зацьвердзіў; дзеля чаго сконфіскованыя нумары часоп. „Маланка“ за № 2 зьвернены рэдакцыі і цяпер рассылаюцца.

## Перарадзіўся.

Мудрым Стасюк наш пабожным
Чалавек быў,
„Чын“, браткі, меў, ой, паважны:—
Солтысам служыў!

Быў душою не калека,
Меў ён гонар чалавека.
І вось з гэтай то прычыны
Тых раўняў ён да „скаціны“,
Хто гарэлку піў.

Вось я!—было-б вам ўсім вядома,
Каб тут пярун зваліўся з грому,
(Прыклад з мяне толькі бярэце),—
Хоць тут як жабу раздзярэце

І ў рот тэй стравы не вазьму...
Ды што-ж?—здарылася яму
К старосьце лоўка падкаціцца,
(А з кім то можа не здарыцца?!)

— Былога войта—штурх пад бок...
І стаў Стасюк, наш галубок
Начальства, браце ого-го!
Вышэй старосты самаго!

Для нашай вёскі Міхнавічы
Быў гонар:—у войтавым абліччы
Тож, брат, стаяў ня хто-нябудзь—
Наш Стась Жывецкі—не забудзь!

Браткі!.. І гонар дзе той дзеўся?
Ў мамэнт наш Стась перарадзіўся,
Ды так з гарэліцаю зжыўся, —

Сам стаў „скацінай“ небарача,
Бо покуль ў шклянцы не пабача,
Як шкло, чысьцюткага ён дна,
З рук не ўцячэ ўжо не адна!..

Чаго-ж чакаць нам ад такіх
«Начальнікаў»—браткі,
Дабра? — Не! Прыкрасьцяў ліхіх
— Наш лёс, відаць, такі...

*Ад „Сьветлавокага“ падслухаў:*

**Міхась Васілёк.**

## Сяткаваньне „незалежнасьці“ Беларусі.

... А 7 гадз. вечара ў салі „Жоржа“ адбылася ўрачыстая акадэмія. З прамовамі выступалі паслы Ярэміч, Рагуля і інш..

(*З газэт*).




**Селянін** (гледзячы праз шыбу): Нішто сабе, добрая незалежнасьць! Відаць, паны ад нас сялянаў зусім аднезалежніліся, бо ніводнага з нас там і няма...

Крапіва.

## Ратуйце!

Быў на вёсцы я сягоньня,
Ой, дык што-ж там робіцца!—
Ну, паверце — ў самагоне
Скора вёска ўтопіцца.

Ад падатку ўсе там лішкі
Да астатняй мерачкі
Перагналі на кілішкі,
Чаркі ды кватэрачкі.

З кожнай вёскі ды мястэчка
Бурна разьліваецца,
З самагону цячэ рэчка —
Селянін купаецца.

Я пайшоў праз тую рэчку
Ў гміну перш дарогаю,
Там цьвярозага са сьвечкай
Не знайшоў нікога я.

З гміны вось, браткі, праз «плошчадзь»
Я іду ў паліцыю,
А там зубы ўсе палошчаць
З тэй ракі вадзіцаю.

Дык падайце-ж вёсцы руку
Ды няхай ухопіцца,
Бо ў праклятай рэчцы трунку
Скора вёска ўтопіцца.

Міхалка Галка.

## Чортава зельле.

(*Байка*).

Даўно, даўно гэта было...

Калі людзі ня ўмелі яшчэ рабіць гарэлкі, спакойна і шчасьліва ў сваей сям'і жыў адзін чалавек. Цешыўся, калі былі радасьці ў яго жыцьці і сумаваў, калі прыходзіла якая напасьць. Але вялікага гора ніколі ня было, і радасьць і сьмех у жыцьці чалавека пераважвалі над сьлязьмі і горам.

Задумаў раз чалавек ісьці у далёкую старонку. Не хацелася яму раставацца з сямьей, але трэба было. Вось ён, раненька ўстаўшы і разьвітаўшыся са сваімі, з кіёчкам у руках і мяшочкам за плячмі, пайшоў на ўсход сонца. Доўга ён ішоў, маўклівы і спакойны. Ужо падыходзіў ён да мэты, ажно ззаду яго нехта клікнуў:

— Чалавек, чалавек, куды ідзеш?

Чалавек обярнуўся, каб адказаць і угледзіў, што перад ім стаіць чорт, касматы, з хвастом, рагамі і бліскучымі вачамі, якраз такі, якім ён маляваў яго, як часам матка ці бабка расказвалі яму казкі ў малку. Але быццам не такім страшным выдаўся чорт, як расказвалі яму, — ці то дзеля таго, што сярод белага дня сустрэліся.

А чорт, хочучы прагнаць ад чалавека і той астатак страху, што ён у ім прымеціў, загаварыў неяк ласкава, лагодна, быццам матулька родная.

— Сумна табе, відаць, чалавеча? Мусі ў чужую старонку ідзеш, дзетак і жонку пакінуў?

— Бач: усё ведае—ня быўбы-то чорт!—падумаў чалавек.

— Шкода мне цябе, чалавеча! Хочаш, я дам табе такое зельле, ад каторага табе будзе весела, бадзёра і добра?

Тут ужо ніякага страху перад чортам чалавек не знайшоў у сябе і яму паказалася, што і чорт можа часам спрыяць чалавеку і жадаць яму дабра.

— Добра, дай,—адказаў чалавек.

Чорт з радасьці паказаў сваё белыя і страшныя зубы, скокнуў, брыкнуў і ў момант перад чалавекам зьявілася, быццам з зямлі вырасла, пляшка з нейкай вадой. І чалавеку здалося, што чорт сьмяецца з яго, даючы замест нейкага чараўніцкага зельля, прастую ваду.

— То-ж прастая вада!—сказаў ён чорту.

— О не! На, папрабуй наперад.

Чалавек добра сербануў: неяк троху запякло, зрабілася адразу цепла, яшчэ сербануў,—і ў галаве быццам усе калёсікі заварушыліся...

— Вось як! Аж у жываце загарэлася - сказаў з дзіву чалавек.

— Але, гарэлка, — падхапіў, добра не расслухаўшы, чорт,—няхай сабе завецца гарэлкай.

Чорт параіў чалавеку яшчэ сербануць таго зельля.

Чалавек так і зрабіў. Ідуць далей. Прайшло колькі мінутаў—чалавек перарадзіўся: яму весела стала, ногі самі бягуць і ў сярэдзіне так цёпла і добра...

Бачыць чорт, што чалавеку ўпадабалася яго зельле, ён і кажа чалавеку:

— Хочаш, чалавеча, я навучу цябе дабываць гэтае чараўніцкае зельле.

— А і што добра было-б, пане чорт!

— Ну, і добра! Навучу...

Ідуць далей. Прыйшлі ўжо ў тую старонку, дзе трэба застацца чалавеку. Чорт у пастаці чалавека памог яму стаць на службу. Ён прыходзіў кожную ноч да чалавека і ўчыў яго рабіць тую гарэлку, як ён назваў яе.

## Якое дрэва, такі — кліх, Які бацька, такі — сых!..

Зайшла сялянка да Мацея, які лясьнікам у пана служыў. Дома нікога ня было, толькі адны дзеці, вось яна і пытае іх:

— Дзетачкі, а дзе ваша маці?

— Мы ня дзеці, а мы — паніцы!

— Ну добра, хай сабе „панічы“, але дзе маці?

— Пасла трэсьці ў двор пану гной, каб зарабіць на касу і лой...

**І. А.**

## Пасада заўсёды будзе.

— Глядзі, вось наш войт Т—чка хутка разбагацеў. Нядаўна яго да нас прыслалі, а ён ужо зьбіраецца з войстамскім жыдком млын у „супалку“ закладаць.

— Якое там у супалку!

Проста баіцца, што як са службы пражануць, дык у жыдоўскім млыне старажам будзе...

**Кл.**

# І ён безработны.



**Безработны**: Дайце хоць грошык безработнаму. Другі год бяз працы... Жонка, дзеці галодныя...

**Пан**: Я таксама безработны, — усё жыцьцё не працую, а вось рукі не працягваю.

Добра зразумеў навуку чалавек. Чорт назначыў эгзамін. Чалавек зрабіў зельле, чорт папрабаваў, задзівіўся: саўсім як яго, чортава, работа: і смак, і пах, і ўсё патрэбнае есьць.

— Ну вось, і сам добра умееш рабіць, — пахваліў чорт, — цяпер можаш прадаваць другім і вучыць другіх і скора зробішся багачом... Калі-ж з цябе узяць награду?

— Хіба ўжо тагды, як зраблюся багатым і вярнуся да жонкі.

— Добра, глядзі: ня болей, як праз трынаццаць тыдняў прыду, бо ты ўжо будзеш багатым і вернешся да дому, — сказаў чорт і шчэз.

Служыць чалавек, робіць і прадае чортава зельле. Купляюць людзі, хваляць — не нахваляцца. Праўду сказаў чорт: чалавек хутка разбагацеў, кінуў службу і пайшоў да хаты.

Скончылася 13 тыдняў, прыходзіць чорт да чалавека і кажа:

— Вось ты навучыўся дабываць чарауніцкае зельле, ад якога чалавек вяселым робіцца і каторым можа адагнаць ад сэрца гора і нуду. Вярнуўся ты да хаты багатым, а цяпер пара атрымаць і награду. Выбірай, што табе лягчэй зрабіць мне, чорту, за навуку маю: пакалечыць дзяцей, забіць жонку сваю, раскідаць у мора да апошняга ўсё свае золата, або шмат напіцца майго зельля?..

— Хай Бог крые, каб я калечыў дзяцей, або забіў сваю жонку...

— Ну, выбірай, — паганяў яго чорт, не даючы доўга думаць.

— Ведама, апошняе! Што-ж мне цяжка за тваю ласку добра напіцца твайго зельля? — сказаў са сьмехам чалавек.

Чорт павесялеў і з радасьці высока падскокнуў.

Напіўся моцна чалавек. Напіўся так, як яшчэ ніколі ня піў. А чорт няўгледна каля яго ўсё круціцца, не адходзіць і ўсё нешта шэпча.

Быў ужо вечар. Добра напіўшыся чортавага зельля, прыйшоў чалавек да хаты і папрабаваў вячеры. Жонка чымсь-то не ўгадзіла мужу. Той крыкнуў на яе. Дзеці перепалохаліся ды ў плач. Бацька разлаваўся на іх: як зьвер, схапіў аднаго, як штурхнуў — выламаў руку, другога выбіў з рук маткі — і дзіцянё грымнулася аб землю. Жонка ў плач ды давай мужа лаяць. Той — яе. Слова за слова — і, ня доўга думаючы, шалёны муж схапіў нейкі молат і стукнуў жонку па главе, — тая а ні голасу не падала. Пасьля, ашалеўшы, як няпрытомны, схапіў ён свае мяшкі з грашмі і выскачыў з дому. Прыбег на высокі бераг мора і з пенай на вуснах і злосьцяй на твары, поўнымі жменямі стаў кідаць у мора чортава золата. Кінуўшы апошнюю жменю, ня прытомны і абяссілены, ён грымнуўся на зямлю...

Калі прачхнуўся чалавек, стала ўжо падымацца з-за мора пекнае сонейка. У грудзях сваіх пачуў чалавек боль, у галаве — цяжасьць. Акінуўшы мутнымі вачамі мяшкі ад золата, бедны чалавек сумна прыпомніў усё ўчарашняе: пакалечаных дзяцей, забітую жонку...

Ён кідаўся па зямлі, рваў на сабе вопратку, валасы і, абяссілеўшы, голасна, як дзіця, стаў плакаць...

І зразумеў чалавек, што ён даўся сябе чорту ашукаць, зразумеў, што, зрабіўшы адзін грэх, малы, як ён думаў, ён зрабіў і ўсе другія...

І пракляў чалавек чортава зельле. Праклінаў і плакаў.

Крэпка і голасна плакаў чалавек, а з боку мора, з востраву, разам з шумам хваляў і марскім ветрам, ясна данасіўся радасны і злосны рогат, — гэта сьмяяўся хітры чорт з няшчаснага чалавека...

яйкамі“, але... скуль купца ўзяць? Каб бліжэй быў Вялікдзень, мо' з нас хто які дзесятак купіў-бы, а цяпер?.. і казаць няма чаго: на патрэбнейшыя рэчы грошай няма, ня толькі на яйкі.

Зноў запанаваў сумны настрой у рэдакцыі.

Радасная думка, як маланка, мільгнула і прапала.

Ох, ты, гора-горкае, —
Нуднае жыцьце!

прадэклямаваў рэдактар і пачаў машынальна, з тупым выглядам на твары пераглядаць наступныя лісты.

**Янка Маланка.**

# На пагранiччы.




**Паліцыянт** (*у вагоне*): „*Доводы! панове, доводы!...*“ (зн. пашпарты! грамадзяне, пашпарты!)

**Сяляне** (*адзін да другога*): Што яны здурнелі, ці што! — Хто-ж ім з вагону ў ваду скакаць будзе?

## А шчасьце было так блізка, так магчыма...

(*Праўдзівае здарэньне*).

Доўга і нэрвова хадзіў наш рэдактар па рэдакцыйнай кватэры.

Сотні думак...

Тысячы розных комбінацыяў...

Але, хоць трэсьні, нічога ня выдумаеш!

Заўтра выходзіць новы нумар „Маланкі“, а ў кішані ні граша:

Няма за што паперу купіць.

Няма за што клішэ выкупіць.

Няма чым у друкарні заплаціць.

Хоць ты воўкам завый, або зубы на паліцу кладзі...

Няма ніскуль пацехі. Уся надзея на падпісчыкаў, але... нехта, як на злосьць, такую пагаворку выдумаў:

„*Пакуль сонца ўзыйдзець,—раса вочы выесьць*“.

Аж раптам: стук... стук... стук.. у дзьверы. Увайшоў паштальён, кінуў на стол пачку газэт і лістоў і, шмыг за дзьверы, як-бы хто за ім у сто кіёў гнаўся.

Рэдактар дрыжачымі рукамі ўзяўся за лісты. Адчыняе першы і... о, цуд! Раптам праясьнеў, як сонца і ў вачох заблішчэлі сьлёзы радасьці.

— Браточкі! — крыкнуў ён, — трэба толькі пацярпець, а грошы, як з неба, пасыплюцца. На ўсе выдаткі хопіць! А мо' нават і заробім!?

— Што, што?.. Што такое?!

— А вось, маеш, чытай! — сказаў рэдактар, працягваючы мне ліст.

— Ну, я вам скажу, і ліст!!. Проста ня ліст, а — сто пудоў шчасьця...

Прыводжу для цікавых адрывак з гэтага ліста, нічога ў ім не зьмяняючы і не папраўляючы:

... далей паважнага рэдактара прашу павядаміць пачом плацяць у Вільні ціпер яйка за дзісятак бо я хачу шпікуліровапь чйкамі. Далей прашу паважны редактар ежелі бы я прыехаў да вас то ці маглі-б вы мне даць купца каб я мог збыць свой тявар, бо я ішче ні разу ні быў у Вільні то ні знаю як там што“...

— Вось шчасьце! — крычу ад радасьці я. Пачнем „шпікуліраваць“ і ў момант усе выдаткі аплацім!

— Але скуль-жа ўзяць купца?— нек трывожна запытаўся рэдактар.

— Але, праўда! Скуль?..

— Скуль узяць таго купца на яйкі? — вось праклятае пытаньне.

Думаў я гадзіну... Думаў дзьве... Думаў пяць і — нічога ня прыдумаў.

Думаў рэдактар. Думала сэкрэтарка. Прыйшоў па грошы адзін з нашых супрацоўнікаў і... ён думаў.

Думалі... думалі... думалі... і — ніяк нічога не маглі прыдумаць.

— Вось няшчасьце! Залаты, бачыце, інтэрас гэта „шпікуліраваць

### СТЫДЛІВЫ ВУЧАНЬ.

— Вось скажы, Янка, — пытае малога вучня настаўнік: калі ты стаіш тварам на ўсход, дык па правай руцэ будзе — поўнач, а па левай — поўдзень, дык што ў цябе з-заду?

— Калі я стыдаюся сказаць...

### У РЭДАКЦЫІ.

— Ці магу бачыць пана рэдактара?

— А на што ён вам?

— Хачу даць маленькае спраставаньне...

— Гэта вам няўдасцца. Пан рэдактар пасьля ўчарашняга спраставаньня праляжыць, мусіць, тыдні два ў шпіталі. **Я. М.**

### НАИБОЛЬШЫ ЦЯЖАР.

На жыдоўскім возе (балаголе) ехалі сяляне. У дарозе прыстаў конь. Каб аблягчыць воз, фурман сказаў скінуць з возу цяжкія рэчы, калі хто іх мае.

Адзін селянін скінуў з возу жонку, кажучы:

— Яна для мяне найбольшы цяжар!

### ДОБРАЯ НАВУКА.

— Чаму гэта возьнікі гэтак брыдка лаюцца?

— Відаць, у Обста вучыліся.

### ПАБОЖНАЕ ЖАДАНЬНЕ.

**Абшарнік:** Пры гэтакай пагодзе можа прапасьці ў нас усё быдла.

**Аканом:** Ах, каб пан Бог вас, вяльможны пане, пры здароўі ўтрымаў. *Я. М.*

# Народны гумар.

Праз вёску праходзіў паліцыянт. У той час адбывалася зацьменьне месяца. Паліцыянт заўважыўшы, што месяц некуды зьнікае пытае:

— Што гэта?! Куды-ж месяц падзёўся?..

— Ня ведаю, я ня тутэйшы, — адказаў селянін.

*Я. А.*

### ДОБРЫ КОНЬ.

Купляе селянін каня ў цыгана, а той яго вельмі хваліць.

— Дык чаго-ж ты гэтак хваліш каня? — гэта-ж нічога завіднага ў ім няма.

— Як няма?! — угаварвае цыган. — Ды я ручаюся, што ты адзін яго з хлева ня выведзеш...

— А як?

— Чатырох: адзін будзе весьці, другі падпіхаць, а двох з бакоў падтрымліваць.

### ДАЧАКАЎСЯ.

Малады паніч заляцаецца да прыгожай вясковай дзяўчыны:

— Касю! — я для цябе ўсё аддам, усё зраблю. Скажы толькі...

— Хай, паніч, накладае гной на воз, а я пасяджу.

*Я. М.*

### ДОБРАЯ ГАЗЭТА.

Поп угаварвае селяніна:

— Ня чытай „Маланку“, а лепш чытай газэту „Беларускае Слова“, — гэта добрая газэта і яе дарма рассылаюць.

— Але добрая. Мая старая заўсёды ў яе селядцы ўкручвае, як дае з сабой на работу.

*Н.*

### ДАГАВАРЫЎСЯ.

У часе спрэчкі з дарослым сынам кажа бацька:

— Ты, гультай, каб ты столькі прыкрасьцяў нарабіў майму бацьку, дык ён цябе пэўне-б забіў!

— Э, які ваш там бацька!... Ёсьць аб кім казаць...

— Што! Мой бацька! Ды я табе кажу, што твой бацька, процiў майго бацькі, ёсьць апошні дурань.

*В.*

# Цыган на чужое ласы.

Румынскі ўрад пастанавіў паставіць памятнік Мусолініяму у... Кішынёве, як знак — падзякі за прызнаньне ім Бэсарабіі да Румыніі.

*(З газэт).*




**Румынскі цыган да Мусолініга:** Ты пайграй, баця, а я табе паскачу... Бэсарабія — гэта смачны кусок сала для мяне, толькі ці праглыну я, каб жывот на расстроіць.

### ПАМІЖ ПАНАМІ.

**Першы пан:** У мяне зямля гэтакая ўраджайная, што я ніколі ніякіх штучных гнаёў ня купляю.

**Другі пан:** Э, што там васпана зямля, Вось мая зямля: пасадзі ў зямлю гузік, а вырастуць... штаны.

### ВЕЧАРЫНА.

— Ну як-жа было табе там на вечарыне?

— Э... якая там вечарына! Усяго было толькі тай авантуры, што тры крэслы паламалі і сем зубоў выбілі...

*Я. М.*

### НА ЎСЕ РУКІ.

Ён з начальствам знае дзела:
Парасейску валіць сьмела;
Ліжа, выйшаўшы за вёску,
Ласку панскую папольску.

Нават жыду — ў доўг як просе —
„Гутэ-моргэн!“ — буркне ў носе.
Калі-ж сядзе у кутузку*),
Усіх кляне пабеларуску.

*Я. Купала.*

*) Кутузка — арышт;

### ЦІКАВЫ.

Пытае хлапец у дзеда:

— Скажы, дзед, ці праўда, што па сьмерці чалавека душа яго выходзе ў неба.

— Але праўда.

— А куды пойдуць душы тых войстамскіх сялянаў, якія атруціліся „дынатуркай“, а пасьмерці іх дактары выразалі сэрцы, мазгі і інш. і забралі з сабой.

— А скуль я ведаю: што я поп?.

*К.*

## Ад Рэдакцыі.

**Усім нашым паважаным падпісчыкам рассылаем пры гэтым нумары бляңкеты на адтрыманьне нашай прэміі ў 50 экз. беларускіх кніжак.**

**Запрашаем усіх братоў Беларусаў адгукнуцца на наш заклік і запісаць на кожны бляңкет хоць аднаго, або двох новых платных падпісчыкаў, робячы гэтым вялікую помач роднай беларускай часопісі.**

# З бальшавіцкага гумару.

## КАХАНЬНЕ ПА ДАКЛАДУ.



Прыймаючы пад увагу акружаючыя абставіны...



...Ацэніваючы прадмет з розных пунктаў гледжаньня. ... Падходзім проста к пытаньню...



... І ствараючы новыя вартасьці... ... Пераходзім да новых заваяваньняў.

**МАЛАНКА** выходзіць 2 разы ў месяц на добрай ілюстрацыйнай паперы з вялікай колькасьцяй ілюстрацыяў.

**А**дрэс Рэдакцыі: Вільня, Гэтманская вуліца, № 4.

**Л**епшых жартаў і гумару ня знойдзеш ні ў якой газэце, як толькі ў «**Маланцы**».

**А**дзін нумар «Маланкі» каштуе толькі **30** грошай.

**Н**іколі не марнуй грошаў на гарэлку, а лепш выпішы «Маланку».

**К**ожны падпішчык «Маланкі» заўсёды чуецца вясёлы і ніколі ні аб чым ня сумуе.

**А** калі хочаш быць нашым падпішчыкам, памятай, што падпіска на «Маланку» на тры месяцы каштуе толькі **2** зл.

# НАША ПОШТА.

**Шчуплы**: Верш Ваш гэтак сама „шчуплы“, а перарабляць небясьпечна — 129 арт. К. К. пахне.

**К. Гракат**: Спаліла наша „Маланка“ Вашы вершы ў кошыку, бо не знайшла ў іх ані складу, ані гумару, ні прыгожасьці.

**Дзядзька Шэльма**: Верш Ваш у сучасных варунках зьмясьціць ня можна. Аб солтысе даем у „сьвежых навінах“, — хай яму „Маланка“ стыдам вочы высмаліць.

**Сусед**: З Вашых „жартаў“ нават і.. каштанка сьмяяца ня будзе, а што Вы шчыры беларус, гэта нам вельмі падабаецца. Працуйце для роднай культуры, будзеце з цяжкага сну сваіх суседзяў.

**Бывалы**: Вашы вершы можна зьмясьціць толькі на Марсе, дзе няма конфіскацыяў, а ў нас, ад нашай рэдакцыі да «Лукішак» дарога вельмі блізкая... «Дзесяць пэпээсаўскіх запаведзяў» можа ўдасца перарабіць і зьмясьціць у наступным нумары.

**Сьветлавокі**: Верш Ваш быў слаба напісаны: Прышлося яго грунтоўна перарабіць.

**Стары Чмель**: Хоць Вы і «Стары Чмель», але ў вершы сваім пішаце:

„Прытуліўшыся ў куточку,
„Стаў яе (дзяўчыну) прыціскаць“...

Радзім Вам і далей гэтым займацца, бо вершы ў Вас слаба выходзяць і нічога цікага не прадстаўляюць.



Рэдактар-выдавец **М. Луцэвіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.

**Прыймаецца падпіска на найлепшую гумарыстычную часопісь**

# „МАЛАНКА“

— Выходзіць два разы ў месяц. —

У „МАЛАНЦЫ“ супрацоўнічаюць найлепшыя літэратурныя і мастацкія сілы Заходняй Беларусі.

У „МАЛАНЦЫ“ зьмяшчаюцца найцікавейшыя, найсьмяшнейшыя жарты, карыкатуры, вершы, сатыры.

„МАЛАНКА“ друкуецца на добрай паперы з вялікай колькасьцяй рысункаў.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

На год—8 зл., на паўгода—4 зл., на тры месяцы—2 зл.

За граніцу на год—2 даляры і на паўгода—1 даляр.

Рэдакцыя „МАЛАНКА“, ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул. № 4.

ЦАНА КАМПЛЕКТУ — 2 зл. 70 гр. (з паштов. перасылкай) — ТРЫ ЗЛОТЫХ.